



# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 26 (1061) ГОД XXI БЕЛАСТОК, 27 ЧЭРВЕНЯ 1976 г. ЦАНА 60 гр.


## ЗАЛАТАЯ АДЗНАКА ДЛЯ „Нівы"

В а ўрачыстай атмасферы 11 чэрвеня бягучага года у Доме друку ў Беластоку адбылася ўрачыстасць уручэння калектыву рэдакцыі нашага штотыднёвіка залатой адзнакі **„Заслужаны для Беласточчыны".**

На ўрачыстасць прыбылі І сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП **Уладзіслаў Юшкевіч**, сакратар ВК ПАРП **Галіна Пятроўская-Ольчак**, кіраўнік адміністрацыйнага аддзела ВК ПАРП **Здзіслаў Рыбіцкі**, намеснік дырэктара прадпрыемства „Друк-Кніга-Рух" у Беластоку **Здзіслаў Пукорскі**, старшыня Галоўнага праўлення БГКТ **Мікалай Самоцік**, увесь калектыў працаўнікоў „Нівы" на чале з галоўным рэдактарам **Георгіем Валкавыцкім.**

— Шаноўныя таварышы, мне вельмі прыемна перадаць вам, што рашэннем Прэзідыума Ваяводскай рады нарадовай па прапанове Адміністрацыйнага аддзела Ваяводскага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі ваш тыднёвік узнагароджан залатой адзнакай „Заслужаны для Беласточчыны", — сказаў І сакратар ВК ПАРП У. Юшкевіч, уручаючы ўзнагароду галоўнаму рэдактару „Нівы" Г. Валкавыцкаму. — Гэтая самая высокая наша беластоцкая рэгіянальная ўзнагарода з'яўляецца доказам прызнання шматгадовай ахвярнай дзейнасці вашага калектыву, які актыўна ўдзельнічае ў фармаванні заангажаваных грамадзянскіх адносін беларускага насельніцтва да сацыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне. Трэба з поўнай сілай падкрэсліць, што беларусы ад першых дзён вызвалення актыўна ўключыліся ў барацьбу за ўмацаванне народнай улады ў нашай краіне. Таксама і „Ніва" з першага свайго нумара адразу стала калектыўным агітатарам грамадства за выкананне велічных заданняў у працэсе сацыялістычных пераўтварэнняў у нашым ваяводстве і ўсёй Народнай Польшчы. Яна інфармавала аб здзейсненым, мабілізавала да аддачы працы, дастаўляла прыемнасць сваім чытачам у час адпачынку. І сёння „Ніва" ўносіць значны ўклад у развіццё нашага ваяводства.

Затым тав. У. Юшкевіч пазнаёміў прысутных з асноўнымі напрамкамі развіцця Беластоцкага ваяводства да 1990 года.

— У нас сапраўды час лічыцца падвойна: у нашым ваяводстве вытворчасць у шэрагу галін гаспадаркі ў мінулым пяцігоддзі мы падвоілі, — падкрэсліў ён. — І гэтыя тэмпы развіцця мы будзем у бягучай пяцігодцы не толькі прадаўжаць, але і павялічваць. Зрэшты, развіццё Беласточчыны мусіць быць вышэйшае, чым усяе краіны, бо нам неабходна як мага хутчэй ліквідаваць тую адсталасць нашага рэгіёну, якая дасталася нам у спадчыне ад мінулага. У гэтым паскораным поступе пераўтваральнага будаўніцтва мы ідзём шырокім фронтам, г. зн. мадэрнізуем старыя і ўзводзім новыя прамысловыя прадпрыемствы, клапацімся аб хутчэйшым развіцці сельскай гаспадаркі, паскоранымі тэмпамі разгортваем жыллёвае будаўніцтва, будуем новыя гандлёвыя аб'екты і г.д. І трэба з задавальненнем прызнаць, што дзякуючы намаганням жыхароў нашага ваяводства, Беласточчыну высока цэняць ва ўсёй краіне як салідны, гаспадарлівы, працавіты і разважлівы рэгіён. Беласточчына на сучаснай карце Польшчы ўпісваецца важкімі аб'ектамі і прыгожымі дасягненнямі. У гэтым запісе і вы, увесь калектыў „Нівы", удзельнічаеце актыўна.

Ад усяго сэрца віншую вас з узнагародай і хачу выказаць пры гэтай на-

(Працяг на стар. 5)



І сакратар ВК ПАРП Уладзіслаў Юшкевіч (справа) уручае высокую ўзнагароду.

## VIII З'ЕЗД БГКТ

## СПРАВАЗДАЧА ГАЛОЎНАЙ РЭВІЗІЙНАЙ КАМІСІІ

Галоўнае праўленне БГКТ працавала на аснове паўгадавых планаў. На працягу справаздачнага перыяду адбылося 7 пленарных пасяджэнняў і 36 пасяджэнняў Прэзідыума Галоўнага праўлення. Арганізацыя наша налічвае цяпер больш як 6 тысяч членаў, згуртаваных у 178 гуртках, якія ў асноўным жывуць і працуюць на Беласточчыне. Па-за Беласточчынай знаходзяцца два гурткі — у Варшаве і Гданьску.

Гурткі БГКТ згодна з дырэктывамі Галоўнага праўлення сваю дзейнасць звязваюць з агульнадзяржаўнымі заданнямі.

Нацыянальная форма ў дзейнасці гурткоў праяўляецца ў беларускай мове, на якой чытаюцца даклады, адбываюцца аўтарскія сустрэчы з БГКТ-оўскімі пісьменнікамі і журналістамі „Нівы". Праяўляецца яна ў рэпертуары нашых мастацкіх калектываў. Аднак, найбольшую ролю ў гэтай галіне адыгрывае орган Галоўнага праўлення газета „Ніва", якая стала ў многіх мясцовасцях беларускага асяроддзя найпапулярнейшай газетай. Але, на жаль, ёсць такія мясцовасці, дзе ёсць гурткі Беларускага таварыства і людзі штодзень гавораць на беларускай мове, але падпісчыкаў там вельмі мала, а нашыя гурткі зусім нічога не робяць, каб змяніць гэту сітуацыю.

Адным з важнейшых заданняў статутовай дзейнасці нашага таварыства з'яўляецца развіццё мастацкай самадзейнасці. У гэтай галіне шмат зроблена. Існуючыя мастацкія калектывы, а перш за ўсё харавыя калектывы, на сваім рахунку маюць шмат дасягненняў. І конкурс на беларускую песню ўваходзіць ужо ў традыцыю. Аднак трэба сцвердзіць, што ён слаба разрастаецца ўшыр і не выходзіць далёка па-за існуючыя мастацкія калектывы, яшчэ не стаў масавым і не ахапіў большасці нашых вёсак.

Развіццё драматычных калектываў, іх колькасць і якасць таксама патрабуюць большай дапамогі і апекі Беларускага таварыства.

(Працяг на стар. 4)

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве"



## У ГАЙНАЎСКІМ БЕЛЛІЦЭІ

Цяпер тут поўна ўжо ціха. Апусцелі школьныя залы, прыкрыўшыся промнямі летняга сонца, адпачывае спартыўная пляцоўка. Зрэдку бегавымі дарожкамі прабяжыць вецярок, а ў пусты клас, сеўшы на падаконніку і пастукваючы ў шыбіну, загляне нейкая цікаўная птушка. Канікулы! Але калі мы наведалі Беларускі агульнаадукацыйны ліцэй у Гайнаўцы, ён яшчэ жыў на поўны мах. Была якраз тая пара, поўная хваляванняў, калі вучні збіралі апошнія плады сваёй працы.

На калідоры шумна. Перапынак між заняткамі. Праходзім у пакой дырэктара Уладзіміра Сцепанюка. Увесь стол заложаны папяровымі папкамі. Гэта атэстаты сталасці ды іншыя ўладкаваныя дакументы тых, якія ў гэтым годзе назаўжды пакінулі школьныя парты. Дзень-два — і пойдуць гэтыя дакументы

(Працяг на стар. 4)



Будынак белліцэя ў Гайнаўцы. Фота Я. Цялушэцкага

## НА СТАРОНКАХ БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ

# ВЫХАДЦЫ З БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

Знаёмячыся са зместам паасобных тамоў БелСЭ, з прыемнасцю пераконваемся, што і ў наш час выхадцы з Беласточчыны знаходзяцца сярод выдатных людзей.

Вядомая ў камуністычным падполлі ў міжваенны час пад псеўдонімамі Уладка ці Люба, Любоў Янкоўская (т. XI, с. 544), нарадзілася ў сям'і рабочага 14 сакавіка 1901 г. у Беластоку. „Член Камуністычнай партыі Польшчы з 1921 г. Вучылася ў Інстытуце чырвонай прафесуры ў Маскве (1931—1933 г.г.). З 1922 г. на падпольнай рабоце ў Заходняй Беларусі — сакратар Беластоцкага гарадскога, член Беластоцкага акруговага камітэтаў і Цэнтральнага жаночага аддзела КПЗБ, Часовага сакратарыята ЦК КПЗБ. Па працэсу 133-х засуджана на 7 гадоў турмы (вызвалена па хваробе). З 1930 г. у апараце Выканкома Прафінтэрна (міжнароднае аб'яднанне левых (рэвалюцыйных) прафесіянальных саюзаў — І. С.). Член і кіраўнік Краявога сакратарыята ЦК КПЗБ (1935, 1937 г.г.). У 1935 г. узначальвала камісію па вывучэнню Заходняй Беларусі пры Акадэміі навук БССР. На II з'ездзе КПЗБ (1935 г.) выбрана членам Цэнтральнага Камітэта". Жыве цяпер у Варшаве.

Удзельнік Грамадзянскай і Айчыннай войнаў, выхаванак Ваеннай акадэміі імя Фрунзе генерал-маёр Станіслаў Зайкоўскі (т. IV, с. 471) нарадзіўся 4 жніўня 1899 г. у вёсцы Жаўткі каля Беластока, жыве ў Адэсе. Таксама ўдзельнік Грамадзянскай і Айчыннай войнаў, выпускнік Ваенна-інжынернай акадэміі імя Куйбышава генерал-маёр Пётр Семянюк (т. IX, с. 484) нарадзіўся 24 студзеня 1899 г. у вёсцы Нова-Далістова каля Беластока, жыве ў Маскве. Удзельнічаў у Грамадзянскай і Айчыннай войнах таксама і выхаванак Акадэміі механізацыі і матарызацыі Чырвонай Арміі генерал-маёр Іван Юшчук, (т. XI, с. 518) які нарадзіўся ў вёсцы Малынка каля Заблудава. Жыве ў Маскве.

Значная група нашых землякоў з'яўляецца гаспадарчымі дзеячамі і перадавікамі сацыялістычнай працы ў БССР. Уладзімір Баўм (т. II, с. 185) — нарадзіўся 6 жніўня 1922 г. у вёсцы Карыціскі на Бельшчыне — Герой Сацыялістычнай Працы, старшыня калгаса імя XXII з'езду КПСС у Іўеўскім раёне на Гродзеншчыне. Антон Гічан (т. 3, с. 500) — нарадзіўся 12 чэрвеня 1929 г. у вёсцы Макаўляны на Сакольшчыне — Герой Сацыялістычнай Працы, загадчык вытворчага ўчастка калгаса „1 Мая" ў Шчучынскім раёне таксама на Гродзеншчыне. Уладзімір Піскун (т. 8, с. 451) — нарадзіўся 8 сакавіка 1926 г. у вёсцы Капцёўка на Дуброўшчыне — Герой Сацыялістычнай Працы і Заслужаны шафёр БССР у г. Гродне. Вера Пятручак (т. VIII, с. 664) — нарадзілася 28 жніўня 1926 г. у вёсцы Сацы на Гайнаўшчыне — Герой Сацыялістычнай Працы, працуе ў саўгасе „Чырвонагрудскі" Валкавыскага раёна на Гродзеншчыне. Валянціна Вачынская (т. XI, с. 602) — нарадзілася 12 студзеня 1922 г. у вёсцы Бацюты каля Суража — Герой Сацыялістычнай Працы, працуе ў калгасе „Расія" каля Гродна. Раіса Цітко (т. XI, с. 115) — нарадзілася 16 жніўня 1926 г. у вёсцы Юраўляны на Сакольшчыне — Герой Сацыялістычнай Працы, працуе ў саўгасе „Перамога" Ашмянскага раёна на Гродзеншчыне.

Беларускі савецкі вучоны ў галіне акушэрства і гінекалогіі Генрых Гофман (т. III, с. 574) нарадзіўся 29 сакавіка 1899 г. у Беластоку.

Сярод нашых землякоў маем таксама і пісьменнікаў. Вядомы польскі пісьменнік, аўтар аповесці „Хлопец з Сальскіх стэпаў", раманаў „Пад фрыгійскай зоркай" і „Лясное мора" Ігар Няверлі (т. VII, с. 549), сапраўднае прозвішча Абрамаў, нарадзіўся ў сям'і ваеннаслужачага 24 сакавіка 1903 г. у мястэчку Белавежа. Сучасны беларускі празаік, аўтар аповесцей „У адным інстытуце", „Данута", „Пушчанская адысея", „Вершалінскі рай" і шэрагу апавяданняў Аляксей Карпюк (т. XI, с. 627) нарадзіўся 14 красавіка 1920 г. у вёсцы Страшава каля Гарадка на Беласточчыне. Беларускі сучасны паэт і драматург Пётр Макаль (т. VI, с. 545) нарадзіўся ў вёсцы Крушыняны на Сакольшчыне.

Сярод заслужаных прадстаўнікоў іншых відаў мастацтва знаходзім рускага і савецкага акцёра і рэжысёра Барыса Тамарына (т. X, с. 220), сапраўднае прозвішча Хмыраў, які нарадзіўся 10 жніўня 1894 г. у Беластоку, вядомага акцёра і рэжысёра славутага маскоўскага МХАТ-а, заслужанага дзеяча мастацтваў РСФСР. У мястэчку Заблудаў 1 студзеня 1925 г. нарадзіўся Георгій Клачко (т. VI, с. 15) — беларускі савецкі скрыпач і педагог, Заслужаны артыст БССР.

Словам, шчодрая на таленты беластоцкая зямля.

**І. Снарскі**

# МІХАСЬ МАШАРА

7 чэрвеня г.г. памёр адзін са старэйшых беларускіх пісьменнікаў Міхась Машара.

М. Машара нарадзіўся 18 снежня 1902 года ў вёсцы Таболы. У 1920 годзе дабраахвотна ўступае ў рады Чырвонай Арміі. У міжваенны час прымае ўдзел у заходне-беларускім рэвалюцыйным руху. Чатыры гады прасядзеў у віленскай турме Лукішкі. Быў дэпутатам Народнага сходу, які адбыўся ў верасні 1939 года ў Беластоку. У часе апошняй вайны супрацоўнічаў у партызанскім і франтавым друку.

Літаратурную творчасць М. Машара пачаў у 1927 годзе. Першы яго зборнік вершаў „Малюнкі" выйшаў, калі паэт знаходзіўся за турэмнымі кратамі. У наступныя гады былі выпушчаны кніжкі М. Машары „На сонечны бераг!", „Напрадвесні", „З-пад стрэх саламяных", паэмы „Вяселле", „Смерць Кастуся Каліноўскага", ,Мамчына горка", а таксама некалькі драматычных твораў. Паэтычныя кнігі савецкага перыяду: „Беларусі", „Праз навальніцы", „Урачыстасць", „Мая азёрная краіна". У пасляваенны час М. Машарам напісаны таксама цыкл раманаў аб змаганні працоўных Заходняй Беларусі за сваё сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне — „Крэсы змагаюцца", „Сонца за кратамі", „Лукішкі".




ПОМНІКІ ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ

*Помнік лётчыку Герою Савецкага Саюза Мікалаю Гастэла (Мінская вобласць). Свой палаючы самалёт ён накіраваў на калону нямецкіх танкаў 26 чэрвеня 1941 года.*

# ШТО НОВАГА?

## „ВЕРНЕМ ТАТУ ЗА 40 МІЛЬЁНАЎ..."

...Ноч. Сярод грабніц і кіпарысаў рухаюцца таямнічыя фігуры. Не, гэта не прывіды і не рамэо, якія шукаюць сваіх джульет у фамільным склепе. Яны дастаюць астанкі фабрыканта рэчаў санітарыі Джакаміні з багатага мармуровага маўзалея. Потым сыны нябожчыка атрымаюць паведамленне. Яго сутнасць: плаціце за вашага тату 40 мільёнаў лір, і мы вернем яго на месца.

Гэты эпізод толькі малое звяно ў ланцугу злачынстваў вымагальнікаў, якія паставілі цяпер у Італіі рэкет амаль што на паточную аснову. Асабліва расквітнела вымагальніцтва па меры пагаршэння эканамічнага становішча, росту беспрацоўя і банкруцтваў. Зараз на Апенінскім паўвостраве кожныя пяць дзён каго-небудзь крадуць.

Злачынцы зусім дзелавыя людзі. Яны могуць пайсці насустрач сваім ахвярам і даць ім магчымасць выплаціць суму выкупу ў растэрміноўку. Некаторым „кліентам" могуць зрабіць скідку ці абмеркаваць з імі „узаемапрымальную" форму плацяжу.

„Кліентамі" злачынцаў рызыкуюць стаць розныя людзі — усе, з каго ёсць што атрымаць. У спісе ахвяр вымагальнікаў, напрыклад, аказаўся славуты ювелір Джавані Булгары, які ў свой час дамагаўся рукі і сэрца кіназорак Кім Новак і Джыны Лолабрыджыды. Ён жа партнёр па гольфу герцага Эдынбургскага і пастаўшчык каштоўнасцей іранскага шаха. У руках вымагальнікаў пабывалі вядомы прамысловец Амадэо Арталоні, „кароль цэменту" Джузепе Мокча, „кароль жавальнай гумкі" Эджыдзіо Перфеці, „кафейны кароль" Сегафрэда, „першая дама імперыі біфштэксу" ўладальніца буйнейшых мясакамбінатаў Эмілія Бланьіна і іншыя „патрыцыі" італьянскага бізнесу.

Злачынцы ловяць сваіх ахвяр на вуліцах Рыма, Турына і Мілана, на кватэрах, у гасцініцах, у кафэ. Яны дзейнічаюць рашуча і прафесіянальна. Паліцыя толькі разводзіць рукамі: амаль палавіна выкраданняў застаецца без пакаранняў для выкрадальнікаў. І гэта не дзіўна: як сведчыць заходняя прэса, тут дзейнічае ўсё тая ж вядомая сіцылійская мафія, якая вырашыла распаўсюдзіць свае аперацыі на больш багатую прамысловую поўнач Італіі.

Арганізатары рэкета ў сваіх аперацыях улічваюць „фактар эканамічнай кан'юнктуры" — інфляцыю і бесперапынны рост дарагоўлі. Кошт „здзелкі" прапарцыянальна ўзрастае: тры гады назад можна было адкупіцца за 200 мільёнаў лір. Зараз менш чым за восем мільярдаў не дамовіцца.

Размах „бізнесу выкраданняў" знайшоў адлюстраванне ў некаторых момантах эканамічнага жыцця. Перш за ўсё на гэту дзейнасць мафіі адрэагавалі страхавыя кампаніі. З'явіўся новы від страхоўкі: мільён лір у год супраць 100 мільёнаў выкупу ў выпадку выкрадання. Вядома, узраслі даходы і гандляроў зброяй, спецыяльнымі замкамі і сістэмамі трывогі. Багатыя людзі сталі наймаць сабе ахоўнікаў за 500 тысяч лір у месяц. І, дарэчы, многія паліцэйскія, каб павысіць свой жыццёвы ўзровень, змянілі прафесію.

Заходні друк выказвае трывогу, што злачынны сіндыкат не абмяжуецца Італіяй, а разгорне аперацыі па ўсёй Заходняй Еўропе, захопіць і іншыя кантыненты. Ці створаць гэтыя „бізнесмены ад злачыннасці" сваю шматнацыянальную кампанію? Такое развіццё падзей не настолькі ўжо неверагоднае, бо ўмовы, якія нарадзілі ў Італіі поспех бізнесу на выкраданнях людзей, існуюць і ў іншых капіталістычных краінах.

**Ю. Гвоздзеў**
(АДН)

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota 26.VI.** 10.00 Trener — film fab. ZSRR. 14.55 Pr. I prop. 15.10 Pr. dnia. 15.15 Dzien. 15.25 Obiektyw. 15.45 REJS. 15.50 Ostatni rejs — film dok. 16.15 Ucz się pływać. 16.45 Olbrzym. 17.05 Turniej mistrzów. 17.45 Spotkajmy się jeszcze raz. 18.15 Fest. Pios. Pol. w Opolu — Premiery Opole 76 cz. I. 19.20 Dobr. 19.30 Monitor. 20.20 Fest. Pios. Pol. w Opolu — Premiery Opole 76 cz. II. 21.20 Dzien. 21.40 Sport. 22.00 Intruzi — film fab. USA (western). 23.30 Opow. Star. Pana.

**Niedziela 27.VI.** 8.10 Now. w domu i zagr. 8.35 Bieg po zdrowie. 8.50 Pr. dnia. 8.55 Sport. 9.00 Kino Najmł. 9.30 Antena. 9.50 W starym kinie: Człowiek, który kręci — kom. 11.05 Z kamerą wśród zwierz. 11.35 Radar. 11.50 Dzien. 12.10 Spotk. z Leonardem Mrozem. 13.00 Piórkiem i węgl. 13.25 BANK 440: Końskie—Września. 14.35 STUDIO MONTREAL 76. 15.50 Los. Duż. Lot. 16.05 L. Kydryński przedstawia: GILBERT BECAUD. 17.10 Rep. film. 18.00 BANK 440. 18.20 Film fab. 19.20 Wieczor. 19.30 Dzien. 20.20 Bajka dla dor. 20.30 Fest. Pios. Pol. w Opolu — Mikrofon i Ekran — Koncert Galowy. 22.30 Sport.

**Poniedziałek 28.VI.** 14.40 Politech. Kurs. przygot. Mat. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.30 Echo stad. 17.50 Zadanie wykonane — film ser. bułg. (Ostatnia rozgrywka). 19.00 Mam pomysł. 19.20 Dobr. 20.15 Sport. 20.30 Teatr TV. 22.40 Między nami rodzicami. 22.50 Dzien.

**Wtorek 29.VI.** 10.00 Film fab. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Szuflada. 17.45 Stud. Mł. 18.45 Tajemnica bałtyckiej Atlandyty. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.30 Przyp., radz. 20.35 Paryscy Mohikanie — film ser. 21.20 Świat i Polska. 22.05 Dzien. 22.20 Pr. muz. 22.50 Lekt. Pegaza.

**Środa 30.VI.** 14.40 Politech. Kurs przygot. Zad. egz. 15.45 Pr. dnia. 15.50 Popołudnie najmł. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 16.55 Sport. 17.45 Los. Mał. Lot. 19.00 Film przyr. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.20 Sport. 20.25 Rolnictwo 76. 20.35 Sybiraczka — film fab. radz. 22.40 Listy i polityka. 23.10 Dzien.

**Czwartek 1.VII.** 9.00 Pr. na Dzień dobry. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 Teleferie. 18.10 Poligon. 18.35 Pr. publ. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.25 Przyp., radz. 20.30 Podróże detektywa — film ser. ang. 21.25 Pegaz. 22.10 Dzien. 22.30 Sprawozdanie sportowe.

**Piątek 2.VII.** 9.00 Pr. na Dzień dobry. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dzien. 16.40 Obiektyw. 17.00 X Y Z — cz. I. 17.40 Pr. publ. 18.10 Przez maskę płetwonurka — film dok. fr. 18.40 Eureka. 19.20 Dobr. 19.30 Dzien. 20.15 Sport. 20.25 Polski Film Dok. Maraton. 21.50 Drogowskazy. 22.35 Dzien. 22.50 Panna na wydaniu — film fab. wł.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 25.VI** — 8.15 Film fab. 14.25 Film fab. 17.55 Film fab. 19.30 Pr. estrad. 20.30 Pr. filmów sport.

**Sobota 26.VI** — 8.30 Film fab. 11.05 Koncert. 12.25 Cyrk. 14.30 Nie do wiary. 15.30 Filmy anim. 16.45 Koncert. 18.10 Pr. estrad. 19.30 Fest. Pios. Radz. w Ziel. Górze.

**Niedziela 27.VI** — 11.30 Koncert. 14.50 Panorama międzynar. 15.20 Pr. muz. 16.15 Film anim. 16.25 Film fab. 17.35 Piosenka, romans, walc. 18.00 Klub film. 19.30 O balecie.

## КІНО

**Białowieża** Dziewczyna z laską — ang. 29—30.VI. Kronika gorącego lata — czes. 1—2.VII. Czerwone i białe — pol. 3—4.VII.

**Czeremcha** Aresztuję cię przyjacielu — ang. 29—30.VI.

**Dubicze Cerkiewne** To ja zabiłem — pol. Manewry Dniepr — radz. 30.VI.—4.VII.

**Gródek** Mniejszy szuka dużego — pol. 3—4.VII. **Kleszczele** Jezioro osobliwości — pol. Dziewczyna i auto — węg. 1—4.VII.

**Michałowo** Śmiercionośny ładunek — USA 29—30.VI. Bez wyraźnych motywów — fr. 1—2.VII. Flip i Flap w Legii Cudzoziemskiej — RFN 3—4.VII.

**Mielnik** Kalina czerwona — radz. 30.VI. Alicja Bororo — czes. 3—4.VII.

**Milejczyce** Mania wielkości — fr. Anna i komandor — radz. 1—4.VII.

**Narew** Legenda o Paulu i Pauli — NRD. No i co doktorku — USA 30.VI—4.VII.

**Narewka** Kalina czerwona — radz. Drogi do ojczyzny — pol. 30.VI—4.VII.

**Nurzec** Przeciw Kingowi — radz. 1—2.VII. Horoskop szczęścia — czes. 3—4.VII.

**Orla** Jarosław Dąbrowski — pol. Wielka noc i wielki dzień — czes. 30.VI.—4.VII.

**Rajsk** Doktor Judym — pol. Gniewna podróż — bułg. 30.VI.—4.VII.

## ПРОСІМ ПРАБАЧЭННЯ

У справаздачы з VIII з'езду БГКТ („Ніва" № 24) з'явілася прыкрая памылка. У пераліку гасцей павінна быць: дырэктар аддзела ўнутраных спраў Ваяводскага ўпраўлення У. Канстанчук. У зацікаўленых асоб просім прабачэння.

B.Z.Graf. Zam. 1406 F-2

# Фэстын у Мокрым

У Бельскай гміне Беларускае таварыства і гмінна-гарадскі камітэт ЗСЛ 6 чэрвеня арганізавалі народны фэстын, прысвечаны XX гадавіне БГКТ і Святу селяніна. На ўрачыстасць прыбылі: прадстаўнік Ваяводскага камітэта ПАРП — Ян Баркулак, прадстаўнікі ГП БГКТ на чале з старшынёю Мікалаем Самоцікам, члены гмінна-гарадскога камітэта ЗСЛ у Бельску на чале з прэзасам Францішкам Зязюляй, першы сакратар гарадскога камітэта ПАРП у Бельску — Мікалай Хурса, начальнік гарадскога ўпраўлення ў Бельску — Ян Садоўскі, сакратар гміннага камітэта ПАРП — Мікалай Сідорскі, члены гмінна-гарадскога прэзідыума дэмакратычнага странніцтва на чале з яго старшынёй Людвікам Драздоўскім і іншыя.

З падрыхтаванай з самаходных прычэпаў і прыгожа ўдэкараванай трыбуны адкрыў урачыстасць сакратар падставовай партыйнай арганізацыі ПАРП у Мокрым таварыш Язэп Лукашук. У сваім прывітальным выступленні асабліва падкрэсліў ён факт, што такая вялікая супольная ўрачыстасць БГКТ і ЗСЛ адбываецца ў іх вёсцы, якая не бачыла такога ўрачыстага настрою і павагі. Затым выступіў з дакладам прэзас гмінна-гарадскога камітэта ЗСЛ Францішак Зязюля, а пасля яго старшыня Галоўнай рэвізійнай камісіі, журналіст „Нівы“ Міхась Хмялеўскі.



Валейбольныя спаборніцтвы.



Да плёскаўскіх дзяўчат далучыліся спевакі з Дубяжына.

Пасля дакладчыкаў на трыбуну ўвайшоў аркестр гарадскога гуртка БГКТ у Беластоку. Змяніла яго эстрадная група з Плёсак. Выступіў таксама харавы калектыў з суседняй вёскі Дубяжын. Абодва гэтыя калектывы працуюць пад мастацкім кіраўніцтвам Пятра Нявінскага. Мастацкая частка ўсім падабалася, і таму кожны яе нумар суправаджаўся бурнымі апладысментамі.

Вялікае зацікаўленне ва ўдзельнікаў фэстына выклікалі спаборніцтвы добраахвотных пажарных каманд з Мокрага і Кнарыд. Спаборніцтва выйграла пажарная каманда з Мокрага, якой кіруе Іван Валасюк.

Гмінная спартыўная рада таксама падрыхтавала багатую праграму. Былі розыгрышы футбольныя і валейбольныя, бегі, матацыклетныя спаборніцтвы.

Надвячоркам пачалася ў Мокрым танцавальная вечарына.

**М. Сваяк**
фота аўтара



Спяваюць дзяўчаты з Плёсак. Акампаніятар Пётр Нявінскі.



Паказы пажарнікаў.

---

## З маёй званіцы

### У калаўроце абяцанняў

Не ведаю, як вам, але мне здаецца, што стварыць клуб, калі ёсць гатовае памяшканне, гэта тое, што плюнуць. Дальбог так думаў! Але ад сёння ўжо перастаў.

Ліквідавалі ў Локніцы школу. Не, не то што, каб зрабіць на злосць, а проста так трэба было. Ну, і застаўся пусты будынак. Ды і давай тады моладзь пісаць прашэнне, каб дазволілі ім неяк выкарыстаць гэтае памяшканне. Ну, хаця б на святліцу. Тыдзень прайшоў, месяц праляцеў, ужо і час людзі пагубілі, а адказу як не было, так і няма. Вясною солтыс сход пачаў склікаць. Дырэкцыя бельскага прадпрыемства „Рух“ паабяцала клуб стварыць. Але паставіла адну ўмову — як мага хутчэй клубовую выбраць. Ахвотніца знайшлася адразу. Зіна Кучынская, энергічная дзяўчына, ужо на другі дзень паехала ў Бельск. А там сказалі хуценька кніжачку здароўя ды біяграфію даставіць. Калі ўсё было гатовае, зноў наступіла чаканне. Яшчэ дырэктар пісульку прыслаў, даючы дазвол, каб у дырэктара пасынскай школы ад адной палавіны ключы ўзяць. Паехалі. Але думаеце так хутка аддадуць? О не! Тэлефонаў з дзесяць яшчэ трэба было заказаць, каб упэўніцца, ці подпіс не падроблены. А тут рамонт на галаву валіцца. Вось-вось мелі прыехаць адноўку рабіць. А тут залы не падрыхтаваныя. Ну, але ўсё ж такі аддалі. А неўзабаве і сам начальнік Бельскай гміны прыехаў. Пахадзіў, паглядзеў і сказаў, што ў адной зале будзе святліца, а ў другой кіёск. На гэтым і скончылася. Час ішоў, а рамонту рабіць не прыязджалі. Адна толькі моладзь корпалася. То дрэўца новае пасадзяць, то кветку. Ну, і нарэшце! Але не думайце, што пачалі рамонт рабіць. Проста начальнік гміны пераказаў, што працаўнікі не прыедуць, бо насталі канікулы і час аднаўляць школы. Але калі жыхары аж так хочуць клуба, то хай самі рамонт робяць. Солтыс ужо і спецыяліста знайшоў. Ды дырэктар „Руху“ паведаміў, што ў Локніцы клуба не будзе. Клубовая ёсць, а клуба не будзе. Давай тады З. Кучынская ў Бельск ехаць. Тры разы да дырэктара хадзіла, а таго не было. Але ўсё ж такі злавіла. І тут усё высветлілася.

— Хто ў такой дзюры каву будзе піць!? — сказалі.

Ці ў вас, даражэнькія, жывот са смеху не разбалеўся, бо мне амаль што! Шмат карт прагледзеў ды геаграфічных кніг прачытаў, але нідзе не знайшоў, каб населены пункт „дзюрай“ называлі. Ну, але нічога не зробіш, калі дырэктар перакананы, што клубы толькі дзеля кавы ствараюць. Каб лакняне гэта ведалі, дык па штук пяць бы выпівалі за дзень. Але нават і ў галаву ім не прыйшло, што кава мае такое грамаднае значэнне.

Давай тады ўсё на сваю руку рабіць. І зрабілі б, каб гмінныя ўлады не паабяцалі, што крэслы дадуць. Калі дадуць, дык чаму ж, зразумела, не пачакаць. Ну і чакалі, пакуль аж тыя не перадумалі і не прыйшлі да вываду, што ў Локніцы крэслы зусім непатрэбныя. Праз нейкі час Локніцу зноў наведаў начальнік гміны ды гэтым разам з прэзасамі ГС-у. І зноў паявілася надзея. На гэты раз ужо краму мелі пераводзіць. Ну, і як тут не даць веры, калі ўлады абяцаюць. Але, даражэнькія, відаць, і яны памыляюцца ды забываюць пра свае абяцанкі. Ужо цэлы год пераводзяць і не могуць перавесці. Ды, пэўна, і не перавядуць, бо ўжо стары будынак аднаўляць пачалі.

Няма што казаць, у Локніцы моладзь сяброўская ды культурная. Зімою, калі шмат часу, і п'есу любяць нейкую паставіць. Толькі няма дзе рыхтавацца і ўсё. Кажаце, у школе? Былі такія спробы. Ды напаліць не было чым. Спачатку кожны, ідучы на падрыхтоўку, дровы з сабой прыносіў, а патым давай вугалю прасіць. А як жа, абяцалі. Ды ведаеце, зноў не хапіла. Ну, і на тым скончылася.

Наступіла нядзеля 9 мая 1976 г. Калі прыехаў сакратар гміны ды дырэктар СКР-у, у лакнян зноў нарадзілася надзея. Ды ненадоўга. Прыехаўшыя, паглядзеўшы школьны пляц, вырашылі аддаць усё ў арэнду. Ну, проста: каб нехта авечак пасвіў. І клуба на выган ледзь не замянілі. І былі б гэта зрабілі. Ды моладзь давай зноў прашэнне пісаць. Убачым, што з гэтага выйдзе. Пакуль што сказалі, каб зноў усё чынам паправіць. Абгарадзіць. Начальнік гміны нават дроту абяцаў даць. Цікава толькі, ці хопіць, а калі не, то якая наступная прапанова будзе? Убачым. А страха ўжо працякае...

**Бізун**

---

РЭПАРТАЖ З ВЁСКІ КОЙЛЫ

# З духам часу

Ішоў я вуліцай вёскі Койлы і прыемна здзіўляўся. Мода на маляваныя платы захапіла тут амаль усіх гаспадароў. Зялёныя, белыя, жоўтыя, блакітныя, чырвоныя колеры — амаль поўная вясенняя вясёлка, якая якраз пасля халаднаватага дажджу адным сваім канцом, як кажуць дзеці, піла ваду недзе ў сажалцы за агародамі.

Прыемна прайсціся такой вуліцай, дзе ў вясеннім сонцы красуюцца свежай штукатуркай новыя жылыя дамы, што расселіся ў агародчыках за гэтымі маляванымі платамі.

Прыходзіць у галаву думка: тут гаспадары жывуць не толькі справамі сённяшняга дня. Яны ўпэўнена глядзяць у будучыню і ведаюць, што адзінай крыніцай багацця з'яўляецца руплівая штодзённая праца.

Захацелася мне з некім абмяняцца думкамі, запытаць пра жыццё-быццё... Я спыніўся ля адной мураванкі. З панадворка выйшаў гаспадар **Аляксей Раманюк**, да якога далучыўся яго брат Іван, а праз некалькі хвілін прыйшлі яшчэ **Лявон Юрчук** і наймалодшы з іх усіх **Жэнік Шпілько**.

Ад першых ужо слоў можна было зразумець, што трапіў я ў цікавую кампанію, бо кожны з іх з'яўляецца своеасаблівым прадстаўніком розных праслоек сялянскай супольнасці.

Аляксей Раманюк — гэта перш за ўсё прадстаўнік той групы аднаасобнікаў, якія, разлічваючы на ўласныя сілы і сучасную тэхніку, самастойна дабіваюцца высокай эканамічнай эфектыўнасці ў сельскай гаспадарцы. Гаспадарыць ён на дзесяці гектарах зямлі, але як гаспадарыць! Ды што я буду яго выручаць, хай сам гаворыць!

— У мінулым годзе здаў я 60 свіней і 5 бычкоў, прадаю бульбу, закантрактаваў 6 гектараў рапсу, які ў нас звычайна рапаком называюць, і амаль усе гаспадары яго сеюць...

— Зараз, хвілінку, дайце крыху абдумацца, — прашу гаспадара. 60 кормнікаў на дзесяці гектарах зямлі? **Гэта ж 600 штук у пераліку на 100 га,** як звычайна падаюць гэты паказчык у дзяржаўнай статыстыцы. Калі паглядзець на гэтую справу з боку сярэдніх паказчыкаў для ўсёй Беласточчыны, дык **Раманюк апярэдзіў ужо некалькі пяцігодак і сваімі паказчыкамі запёр недзе ў двухтысячны год.**

— Ён тут не адзін у такім шырокім маштабе займаецца гадоўляй свіней, — гаворыць яго брат Іван. — Ёсць у нас яшчэ адзін Раманюк, затым Ваўранюк, Рэўкоўскі і яшчэ два-тры койлаўцы, якія таксама кожны год шмат свіней прадаюць дзяржаве.

Ён — Іван Раманюк — адрокся ад гаспадаркі. Прадстаўляе тып селяніна-рабочага, або наадварот — рабочага, які па-даўнейшаму жыве ў вёсцы.

— Мая спецыялізацыя, — заяўляе ён з гонарам, — дарожная справа. Ужо звыш 20 гадоў будую сялянам дарогі.

Затое Лявон Юрчук — гэта адначасова і гаспадар і грамадскі дзеяч. Дык і гаворыць ён перш за ўсё не пра сябе, але аб справах агульных, якія хвалююць усю вёску. Гэта ад яго даведваюся я, што койлаўцы ўсе разам абсяваюць каля 650 га зямлі, што ў вёсцы 12 гаспадароў мае ўжо свае ўласныя трактары, што ў распараджэнні койлаўскага філіяла чыжоўскай спулдзельні сельгасгурткоў таксама дзевяць трактараў з камплектамі, што сяляне тут у асноўным спецыялізуюцца ў кантрактацыі ільну і рапсу.

— З ільном бяды няма, — кажа ён. — Каб толькі была спрыяльная пагода, дык расце ён на славу.

— Лён жа трэба палоць, — заяўляю, а яны абкідваюць мяне не зусім добразычлівай усмешкай.

— Сёння гербецыды выручаюць нашых сялянак у мазолістай праполцы ільну, — гаворыць Юрчук, а яго сусед Аляксей Раманюк тут жа дадае:

— Летам, калі лён ужо працвіце і даспее, пускаем рвачку, значыць, такую спецыяльную, вельмі адмысловую машыну — і за гадзіну часу гектар-паўтара ільну ўжо няма на полі. Бяры сушы і дастаўляй на скупачны пункт.

— А як маладым жывецца ў Койлах? — звяртаюся да Жэніка Шпілько.

— Маладых, якія выключна займаюцца гаспадаркай, тут ужо мала асталося, — кажа ён і пералічвае іх на пальцах: Косця Галёнка, Алек Пятручук, Колька Данілюк, Сцяпан Скепка і я. Іншыя па школах, па работах розных параз'язджаліся, лепшага шчасця шукаюць.

— А што, вам тут дрэнна?

— Ці я кажу, што дрэнна...

— Яны тут сялянскую суполку залажылі, — інфармуе Юрчук. — Шпілько з бацькам уласны трактар маюць. Зараз аўтамабіль будуць купляць...

— А што ж нам рабіць? — як бы крыху засаромлены, адзываецца наймалодшы з маіх субяседнікаў. — Трэба ж ісці з духам часу...

І гэта праўда. Каб не адставаць ад духу часу, Раманюк прымяняе самыя інтэнсіўныя метады ў сваёй гаспадарцы, Шпілько спалучае свае сілы з іншымі гаспадарамі, Юрчук рашыў закончыць тэлевізійны сельскагаспадарчы тэхнікум...

— А ці не маглі б вы пастарацца, — звяртаецца ён да мяне на развітанне, — каб для нашай вёскі прыдзялілі хаця адзін камбайн „Бізон“? Ён вельмі патрэбны нам для ўборкі рапаку.

Гэта ж таксама з духам часу.

**Віктар Рудчык**

(Працяг са стар. 1)

# У гайнаўскім белліцэі

ў шырокі свет у розныя вышэйшыя школы як вестуны прыступленя да экзаменаў. Цікава, як пабягуць жыццёвыя дарогі гэтых маладых людзей. У мінулым годзе з 33 здаючых у вышэйшыя школы было прынята 25 асоб. Астатніх не прынялі з увагі на абмежаваную колькасць месц. Высокая падрыхтоўка. Выразна гэта відаць, калі возьмем для параўнання год 1971/72, калі вышэй адзначаныя выпускнікі ў першы раз пераступілі парог ліцэя. З 75 прынятых — з пяцёркамі ды чацвёркамі было толькі 9 вучняў. Вось бачыце, як за чатыры гады ўзрос узровень ведаў гэтых людзей. Астатнія таксама прадаўжаюць вучобу, праўда, не ў вышэйшых школах, але ўсё ж такі. У кожната сваё зацікаўленне. Калі ўжо мы пры мінулагодніх выпускніках, то нельга не сказаць, што тры асобы, адна з якіх Зіна Вішнеўская, фіналістка алімпіяды па рускай мове, адразу атрымалі залікозыя кніжачкі. Гэта выдатнікі. Ну, і гонар школы — Аліна Швед, якую выслалі на вучобу ў Савецкі Саюз, а дакладней у Палітэхнічны інстытут у Ленінградзе.

Большасць вучняў — гэта выхадцы з вясковых школ. З самога горада вельмі мала. Сярод 286 вучняў — з Гайнаўкі толькі 44. Амаль усе яны са школы № 2. Які лёс сёлетніх выпускнікоў — сказаць цяжка. Многа ідзе ва універсітэт, у асноўным у Люблінскі. Калі мы наведалі ліцэй, усё яшчэ было ў віры афармлення. Вядома толькі, што 7 асоб ідзе на беларускую філалогію.

А як жа выглядаў у гэтым годзе экзамен на атэстат сталасці? У чацвёртых класах (ёсць два) было 60 вучняў. Экзамен здало 57 з 58 прыступіўшых. Падрыхтаваныя былі добра. Вось гляньце! У другой частцы экзамена (вусны) было 30 пяцёрак, 53 чацвёркі і 28 троек.

Але на гэтым развітаемся з нашымі выпускнікамі, жадаючы ім паламання пяра на ўступных экзаменах, і вернемеся назад у школу ды зоймемся яе жыццём і тымі, што тут засталіся. Не, заняткаў чапаць не будзем. Кожны з нас ведае, як яны выглядаюць. Спорт аднак маўчком абысці — тэта грэх. Валейбалісткі маглі б пакрыўдзіцца. А іх ёсць за што пахваліць. Ужо гадоў з дзесяць знаходзяцца ў авангардзе. Валейбол запусціў тут такія карэнні, што стаў вядучай спецыялізацыяй у галіне спорту. Вялікія заслугі ў гэтым настаўніка Мікалая Врублеўскага. А колькі часу, улічваючы тое, што моладзь тут у асноўным з вёскі, дзе са спартыўнымі пляцоўкамі справа выглядае горш чым дрэнна, трэба было адвесці, каб дабіцца такіх высокіх вынікаў, то можаце ўявіць самі. А сёлета вучні заваявалі другое месца ў спаборніцтвах за „Сярэбраны мушкет“, якія адбываліся ў Бельску Падляшскім.

А цяпер, развітаўшыся са спартсменкамі (бо яны тут вярхом), некалькі слоў скажам пра арганізацыі, перш за ўсё пра школьны гурток ТППР, членамі якога з'яўляюцца ўсе вучні. Дзякуючы настаўніцы Яўгеніі Буйноўскай, якая апякуецца ім, хутка стаў ён пладаносным. Нядаўна трое членаў атрымала за плённую дзейнасць залатыя маладзёжныя значкі ТППР. Дзейнасць разгортваецца тут у некалькіх напрамках, вакол якіх паўсталі так званыя групы зацікаўлення. Адной з іх з'яўляецца група зацікаўлення рускай мовай, дзейнасць якой, бадай, тут найбольш плённая. Як ужо ўпаміналася, у мінулым годзе мелі фіналістку, а ў гэтым таксама выпалі нічагавата. Вучаніца III класа Жэня Корг заняла трэцяе месца. Школе радасць, але яна відаць не зусім здаволілася і, каб падняць вышэй і сябе і імя школы, вырашыла, што ў наступным годзе будзе яшчэ раз змагацца.

Ёсць жа яшчэ і конкурсы. Вось хаця б у мінулым годзе быў такі конкурс, аб якім напэўна чулі і ведаеце — „Сяброўства, супрацоўніцтва, братэрства“. І тут гайнаўскі ліцэй ў межах былога павету заняў усе тры першыя месцы.

Настаў радасны час канікул-заслужаны адпачынак пасля дзесяцімесячнай працы. Кожны правядзе іх інакш. Хто дома будзе дапамагаць пры палявых работах, хто ў лагер паедзе. Школа забяспечыла адпачынкам 60 вучняў, уладжваючы два вандроўныя лагеры ў Катавіцы і Аполе, а адзін спартыўны ў Белавежы.

Жадаем усім вясёлых канікул.

**М. Шаховіч**



Пачатак на стар. 1

Існуюць таксама недахопы ў эвідэнцыі членаў БГКТ. Больш-менш дакладна даведваемся мы аб колькасным стане нашай арганізацыі падчас справаздачна-выбарных сходаў, якія, як правіла, адбываюцца перад з'ездамі БГКТ. Як палепшыць эвідэнцыю членаў БГКТ, павінен прадумаць новавыбраны Прэзідыум ГП БГКТ.

Быць членам БГКТ — гэта значыць, між іншым, рэгулярна аплочваць членскія складчыны. На працягу мінулых 4 гадоў найлепш былі аплочаны яны ў 1975 годзе. Падставовы статутовы абавязак наша арганізацыя выканала ў больш як 67%. У 1975 г. былы гданьскі аддзел выканаў складчыны ў 100%, былы сяміяціцкі аддзел — у 94%, былы беластоцкі гарадскі аддзел — у 85%, былы гайнаўскі аддзел — у 75%. Найгорш выглядала справа аплочвання складчын у былым сакольскім аддзеле. Неаплочванне складчын вядзе да адрыву члена ад сваёй арганізацыі.

Не надта добра таксама прадстаўляецца абслугоўванне гурткоў БГКТ і дапамога ім. Нашы актывісты, штатныя работнікі і члены Галоўнага праўлення рэдка бываюць у вясковых гуртках БГКТ.

У сувязі з новай арганізацыйнай структурай БГКТ выдаецца неабходным прыдзяліць да паасобных гурткоў членаў ГП і актывістаў БГКТ. Дапамагаючы гурткам у іх працы, можна будзе дасягнуць многа.




З справаздачным дакладам выступае старшыня Галоўнай рэвізійнай камісіі Міхась Хмялеўскі. Фота З. Лянкевіча.

# Справаздача Галоўнай рэвізійнай камісіі

Неабходна таксама супрацоўнічаць са школамі, з выкладчыкамі беларускай мовы, дырэктарамі школ, дзе выкладаецца беларуская мова, і гэтым самым спрыяць павелічэнню колькасці дзяцей, якія б вывучалі родную мову.

Неабходна больш яшчэ дбаць аб тым, каб усё, што мы робім у культурна-асветнай галіне, было яшчэ больш эфектыўнае. Аднак, нягледзячы на некаторыя недахопы, усе формы працы, уключна з конкурсамі, якія арганізоўвае таварыства, ды фэстынамі і святкаваннямі шматлікіх гадавін, а таксама выдавецкая дзейнасць ГП выконваецца згодна з магчымасцямі і наогул добра.

Варта асабліва падкрэсліць, што аўтарскія сустрэчы нашых літаратараў карыстаюцца вялікай папулярнасцю сярод насельніцтва, і значэнне іх дзейнасці проста невымернае, таму што нашы літаратары адначасова прапагандуюць ідэі нашага таварыства, дэманструюць грамадскі аванс беларусаў у Народнай Польшчы, магчымасці развіцця талентаў, развіцця культуры беларускай нацыянальнай меншасці.

Дзейнасці навуковага гуртка, якая закранае цалінную тэматыку беларускасці, таксама трэба даць высокую ацэнку. Шкада толькі, што як адна, так і другая група творчых людзей маюць малыя выдавецкія магчымасці.

Падсумоўваючы статутовую дзейнасць ГП у бягучай кадэнцыі, трэба сказаць, што нягледзячы на тое, што спынілі сваю дзейнасць эстрадная група „Лявоніха“ і этнаграфічны музей у Белавежы, зроблена вельмі многа карыснай работы, належна рэалізаваўся бюджэт ГП.

А бюджэт ГП складаецца з дзвюх частак:

1) з датацыі міністэрства ўнутраных спраў, якая перавышала ў 1973—1975 гадах паўтара мільёна зл. у год.

2) з статутовых даходаў, выпрацаваных таварыствам у суме ад 189 тыс. зл. да 251 тыс. зл. у залежнасці ад года.

Рэалізацыя бюджэту заўсёды была даволі добрай, хаця з пэўных прычын не выконвалася ў некалькіх працэнтах.

Аналізуючы фінансавую дакументацыю і ведаючы аб усіх пачынаннях ГП, Галоўная рэвізійная камісія сцвярджае, што ўсе фінансавыя сродкі выкарыстоўваліся па-гаспадарску, а фінансавая дакументацыя вядзецца на высокім узроўні.

На працягу амаль 4-гадовай працы Галоўнае праўленне і яго Прэзідыум не мелі ў сваёй дзейнасці якіх-небудзь няправільнасцей і парушэнняў статута БГКТ.

Галоўная рэвізійная камісія сцвярджае, што наша арганізацыя мае самаахвярны актыў, што члены Галоўнага праўлення, Прэзідыум Галоўнага праўлення, штатныя працаўнікі таварыства ў справаздачным перыядзе дапамагалі далейшаму росквіту Беларускага таварыства, якое належна рэалізуе нацыянальную палітыку нашай партыі. За гэта належыцца ім ад усіх дэлегатаў шчырая падзяка.

На аснове ўсяго вышэй сказанага Галоўная рэвізійная камісія прапануе дэлегатам адобрыць дзейнасць Галоўнага праўлення.



Удзельнікі VIII з'езду БГКТ. На першым плане былыя старшыні Беларускага таварыства Уладзімір Станкевіч і Лідзія Бялецкая. Фота З. Лянкевіча.

## Беларуская літаратура

Аляксандр Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЦІШКА ГАРТНЫ — ЧАСТКА 25

Канчаючы інфармацыі аб жыцці і творчасці Гартнага, варта звярнуць увагу на яшчэ адну рысу яго паэзіі. Рысай гэтай з'яўляецца бадзёрасць. Калі глянем на беларускую літаратуру перыяду „Нашай нівы“, дык кідаецца ў вочы яе журботнасць і песімізм. Асабліва адносіцца гэта да паэзіі Купалы і да першых трох-чатырох гадоў у паэтычнай творчасці Коласа.

У першую чаргу Купала быў прапагандыстам суму ў літаратуры. Тэзіс аб неабходнасці смутку выявіўся не толькі ў творчасці Купалы, але і ў яго публіцыстычных выказваннях. Прыкладам з'яўляецца яго артыкул „Чаму плача наша песня“, у якім паэт даказваў, што беларускія паэты не могуць быць аптымістамі так доўга, як доўга беларус і Беларусь будуць зняволенымі. Моцныя песімістычныя настроі знайшлі адлюстраванне таксама ў ранняй паэзіі Коласа. Паглыбіліся яны ў час прабывання Коласа ў турме. Аднак ужо ў 1910 годзе пачаў Колас пісаць паэму „Новая зямля“, якая ў сваім тоне і настроі не мае нічога супольнага з безнадзейнасцю і песімізмам. Зрэшты, варта адзначыць, што ад самага пачатку элементы безнадзеі былі вельмі рэдкімі ў прозе Коласа. Апавяданні пісьменніка ў адрозненні ад яго вершаў былі напоўнены гумарам і аптымізмам.

Якую пазіцыю займае Гартны? Пісьменнік непасрэдна не выказаўся ў дыскусіі, якую вялі Купала і Верашчака, што датычылася характару беларускай літаратуры. Аднак, у творчасці Гартнага знаходзім адназначны адказ адносна таго, якой павінна быць літаратура. Гартнага, безумоўна, трэба залічыць да аптымістычнага рэчышча ў беларускай літаратуры.

Праўда, у частцы вершаў, асабліва ранніх, знаходзім праявы матыву смутку і бесперспектыўнасці, аднак былі гэта праявы слабыя і пераходныя. Галоўным настроем паэзіі Гартнага з'яўляецца вера ў будучыню. І гэта, несумненна, цікава. Паэт не меў лёгкага жыцця. Не мог па сутнасці ніколі разлічваць на дапамогу ці падтрымку бацькоў і сям'і. Быў адзін. Мусіў цяжкай працай здабываць сабе сродкі на ўтрыманне. Жыццё і праца Гартнага былі намнога цяжэйшымі, чым жыццё Купалы, Коласа, Цёткі, Багдановіча, Бядулі. Нягледзячы на гэта ўсё, у Гартнага больш веры, аптымізму, надзеі чым у каго-колечы з названых пісьменнікаў. Чым гэта вытлумачыць? Часткова, мабыць, можна гэта спалучыць з тым, што Гартны быў звязаны з рамеснымі ці рабочымі асяроддзямі або палітычнымі арганізацыямі. Бадай, аднак, не гэта найважнейшае. Мабыць, галоўнай прычыны трэба шукаць у характары, у асабовасці, у складзе душы пісьменніка. Гартны належаў да людзей, якія вераць у заўтрашні дзень, і гэта вера акрэсліла тон грамаднай большасці яго вершаў. Вера гэта асабліва здзіўляе і захапляе, калі ўявім сабе Гартнага-юнака, які з мяшком за плячыма, з пустымі кішэнямі вандруе з мястэчка да мястэчка па Беларусі, Украіне, Літве ў пошуках працы. Вандруе і па сутнасці нідзе не знаходзіць таго, што неабходна для шчаслівага жыцця: ні добрай работы, ні высокага заробку, ні прыемнай кватэры. Усюды чакае яго цяжкая праца, удушлівыя майстэрні, мізэрныя грошы, цесныя каморкі, у якіх трэба жыць. І вось, нягледзячы на гэта ўсё, піша Гартны бунтарныя вершы, верыць у будучыню сваю, свайго народа і сваёй айчыны. Многія іншыя, жывучы ў такіх умовах, сталіся б прапаведнікамі песімізму, бязвыхаднасці, бязвер'я. Гартны быў аднак зусім іншым — не баяўся будучыні. Гледзячы на арганічную сувязь жыцця пісьменніка з яго творчасцю, на ўпартасць і паслядоўнасць у яго імкненнях, прыходзім міжволі да вываду, што выбар Жылуновічам свайго псеўдоніма — Гартны — быў выключна трапным.

# ТРЫБУНА чытачоў

## КАБ НА ІХ ХАЛЕРЫ, ЗАМЫКАЮЦЬ ДЗВЕРЫ

У панядзелкі ў Саколцы адбываюцца торгі. А ГС вядзе скупку свіней і жывёлы. У панядзелак многа людзей прывозіць у Саколку прадаваць воўну, лён і іншыя прадукты. У спулдзельчым банку — СОП-е збіраецца многа людзей, каб узяць грошы. Часам даводзіцца стаяць больш дзвюх гадзін і, зразумела, не аднаму захочацца пайсці ў туалет, які змяшчаецца на калідоры пры выхадзе. Але што зробіш, калі ён заўсёды закрыты. — Каб на іх халера, — кіне не адзін, — да туалету мужыку шкадуюць зайсці!

На нашу думку, не павінна так быць. Куды ж чалавеку за патрэбай пайсці? Гэта ж не на вёсцы, што можна і за хлеў і за клуню...

**Віт**




## ПРА МАЛАКО

*Малако прымаў Анісім —*
*Не мог людзям дагадзіць,*
*Сталі яны скрозь пісаці,*
*З малачара яго скідаць,*
*То ў Беласток, то ў Варшаву,*
*Каб хутчэй закончыць справу.*
*Як Анісім адыйшоў,*
*Гапка прымаць стала.*
*Голаў вышэй падняла,*
*Рогі падвастрыла.*
*Гапка малако прымае*
*І падкручвае, як знае,*
*А Нікіфар пацвярджае —*
*Гэта будзе добра так.*
*Апанас развесяліўся,*
*Што малачар ізмяніўся,*
*Сядзіць ціха і маўчыць,*
*А яму працэнт ляціць,*
*Гапка пробы падрабляе,*
*Круціць, як но толькі знае,*
*Добры людзі, так бывае,*
*Бо працэнты абніжае.*
*За свой корак пакруціла —*
*Сем працэнтаў падрабіла,*
*А потым крычыць іначай*
*І пракурорам яшчэ страшыць.*
*Мітрафан бы ніц не бачыў,*
*Хоць у камітэце ёсць,*
*Рукі ў брукі і ў куточку*
*Прастаяў пачці ўсёй дзень,*
*Ніц нідзе не адазваўся,*
*Прратаколы падпісаў.*
*Гапкі ён пералякаўся,*
*Каб працэнтаў не зняла.*
*Гэта праўда, мілы людзі,*
*Што я тутай напісаў:*
*Гапка круціць, так як знае.*
*Хто займецца Гапкай, а?*
*Ці О.С.М. сама ў Гайноўцы,*
*Ці раённы пракурор,*
*Ці Апанас з Мітрафанам*
*Зноў напішуць ў Беласток?*

**М. Л.**

— Я — Муха-Міхальскі. Прашу вас, дарагія таварышы, падысці да камендатуры! — крыкнуў ім Арлоўскі.

Праз некалькі мінут Арлоўскі разам з рабочымі прыбыў да паліцэйскага ўчастка. Партызаны ўжо абмянялі сваіх стомленых коней на новых, адкормленых у памешчыцкай канюшні. Два байцы пільнавалі палонных паліцэйскіх.

Кірыла Арлоўскі сказаў кароткую прамову. Ён гаварыў пра мэты і задачы партызанскай барацьбы.

— Нядаўна смерць вырвала з нашых радоў мужнага байца Мікалая Абрамчука, — сказаў у заключэнне Арлоўскі. — У яго смерці вінаваты вось гэтыя паліцэйскія, і перш за ўсё — камендант. Гэта яны па-зверску забілі нашага баявога таварыша. А камендант яшчэ пагражаў, што зловіць і мяне, Муху-Міхальскага, расправіцца са мной і маімі байцамі. — Арлоўскі абвёў вачыма прысутных. — Прыгавор катам можа быць толькі адзін — смерць! І так будзе з кожным, хто падыме руку на партызана.

Ноччу ўзнялася мяцеліца. Дробны калючы снег сек па тварах, сляпіў вочы, набіваўся ў вушы. Шумелі і хісталіся дрэвы, трывожна гудзеў лес. Але партызаны былі радыя гэтай завірусе. Здавалася, сама прырода вырашыла схаваць іх ад паліцэйскіх, што кідаліся з аднаго боку ў другі і не ведалі, дзе і калі чакаць Муху-Міхальскага.

*(Працяг будзе)*

## СУСТРЭЧА ПАКАЛЕННЯЎ

Па ініцыятыве гміннага камітэта Фронту адзінства народу і яго старшыні Баляслава Казырскага ў Нарве адбылася сустрэча перадавікоў навукі з шасці пачатковых школ з актывам гміны. У сустрэчы лепшых вучняў Нараўскай гміны прынялі ўдзел Міхал Зубрыцкі — I сакратар ГК ПАРП, Віталіс Пякарскі — начальнік гміны, Янка Іванюк — гмінны дырэктар школ, Кастусь Юшкевіч — яго намеснік, Янка Тапалянскі — гмінны камендант ЗГП, грам. Аверчук — камендант пастарунка МО, Васіль Грыц — прэзас ГС, Лёліуш Васілюк — дырэктар СОП-у.

Сустрэча праходзіла ў клубе. Дзеці — прадстаўнікі школ з Нарвы, Трасцянкі, Іванкоў, Ласінкі, Крыўца, Янова разам са сваімі апекунамі былі запрошаны за багата накрытыя ўсялякімі ласункамі сталы.

Сустрэчу адкрыў гмінны дырэктар. Затым начальнік гміны выступіў да дзяцей з кароткай прамовай. Даведаліся прысутныя, што ў 1978 годзе ў Нарве пачне будавацца новая сучасная гмінная школа, дзе веды будзе здабываць значна лягчэй і выгадней, бо школа будзе забяспечана ўсялякімі навучальнымі дапаможнікамі.

У час урачыстасці дзеці са школ у Нарве, Іванках і Крыўцы падзяліліся сваімі дасягненнямі ў вучобе, грамадскай працы і спорце.

Аб тым, што маладыя жыва цікавяцца жыццём гміны, сведчыць факт, што на сустрэчы не абыйшлося без пытанняў у адрас гмінных улад. На пытанні адказваў I сакратар гміннага камітэта партыі. Падкрэсліў ён у сваім выступленні, што Нарва стане неўзабаве культурным цэнтрам з 78 жылымі сучаснымі будынкамі і сапраўдным домам культуры для ВПГР. Моладзь не павінна ўцякаць у горад, а, набываючы прафесію, звязаную з сельскай гаспадаркай, на месцы служыць людзям, жыццё якіх штораз менш розніцца ад гарадскота.

Моладзь спявала песні, а сустрэчу закончыла гарцэрскім гімнам.

Думаю, што гэта мілая ўрачыстасць, такая карысная маладым людзям, увойдзе ў Нараўскай гміне ў традыцыю, а праграмы сустрэч у наступных гадах будуць яшчэ багацейшыя і больш змястоўныя.

**Га-Та**

## ЗРАБІЎ ДВА МІЛЬЁНЫ КІЛАМЕТРАЎ

Паштальён Варановіч Леанард працуе на пошце ў Бабіках ужо 23 гады. Жыве ў Мінкаўцах. Раён абслугі такі, што кожны дзень ён робіць больш, як 30 кіламетраў. Разносіць пісьмы, газеты, ды пасылкі да трох кілаграмаў вагі. У яго раёне шэсць вёсак. Кожны дзень яго сумка важыць больш васьмі кілаграмаў. Калі ўсё дакладна палічыць, дык чалавек гэты прайшоў ужо больш двух мільёнаў кіламетраў, а на плячах перанёс больш 55 тысяч кілаграмаў.

А ў Бабіцкай гміне калісьці ўсе дарогі былі ліхія, ды і цяпер большасць такіх, што чорт да сну люлюкае. Можна толькі летам праехаць, а ўвосень, зімою і вясною — пехатой па калені ў гразі. Але наш паштальён, нятгледзячы на непагоду і гразь, кожнаму ўсё даручае дадому. Не перадае праз дзяцей, і за гэта людзі яго хваляць.

На бабіцкай пошце працуюць яшчэ два паштальёны, абодва з вёскі Мінкаўцы: адзін — Васілеўскі Казімір, працуе 13 год, другі — Варановіч Рамуальд — 6 год. Усе яны добрыя працаўнікі і няма скарг на іх. Начальнікам пошты працуе тут Данута Себасц'ян. Яна ветлівая да людзей, добра працуе, і за гэта належыцца ёй сардэчная падзяка.

**Э. Ш.**

## ДОМ НАСТАЎНІКА Ў БЕЛЬСКУ

З ініцыятывай пабудовы Дома настаўніка у Бельску выступіла яшчэ павятовае праўленне саюза польскіх настаўнікаў. Ініцыятыва рэалізуецца. Пасля пабудовы бельскі Дом настаўніка будзе весці разнародную педагагічна-выхаваўчую дзейнасць. Прадугледжана тут педагагічная бібліятэка з чытальным залам, кавярня з магчымасцю выдавання настаўнікам абедаў, гасцінныя пакоі, клуб, пазычкавая каса, канферэнцыйная зала. У іншай частцы будынка будзе шэсць ратацыйных кватэр настаўнікам-спецыялістам, недахоп якіх адчуваецца ў бельскіх школах. Кубатура будынка звыш шасці тысяч кубаметраў, а плошча — больш 700 квадртных метраў.

Кожны настаўнік бельскай зямлі яшчэ да 1975 года даў складчыну на гэты будынак. Была сабрана сума звыш 400 тысяч зл. Галоўнае праўленне ЗНП у Варшаве прызначыла 1 мільён зл. Настаўнікі самі працавалі на будове: капалі фундаменты, залівалі фундаменты і выканалі мноства іншых прац. Будуе дом Прадпрыемства камунальнага будаўніцтва ў Бельску ў рамках чынавых інвестыцый.

Першы тэрмін заканчэння пабудовы мінуў 31 снежня 1975 года. Прадпрыемства атрымала адтэрміноўку да 1 мая 1976 года. Аднак і гэты тэрмін быў не стрыманы. Калі прыйдзе ўласцівы тэрмін — цяжка сказаць.

**Мікалай Няплоха**

## У ПАМЯЦЬ НЕВЯДОМАМУ САЛДАТУ

За Дашамі ў полі стаіць магіла салдата. Нікому невядомае яго імя і прозвішча, ніхто не ведае, адкуль яго род. Некаторыя кажуць, што было гэта ў 1939 годзе. Відаць, яго вайсковая часць была разбіта, бо ён прабіраўся кудысьці бакавымі дарогамі, пэўна, да сваіх. Пад Дашамі схапілі яго фашысты. Раздаліся стрэлы. Згасла жыццё маладое.

Магілай невядомага абаронцы заапекавалася школьная моладзь з Дашоў разам са сваімі настаўнікамі. Яны даглядаюць магілу, прыносяць сюды жывыя кветкі і кладуць вянкі. Невядомы салдат застаецца жывым у сэрцы дашавян.

**Марко**
Фота аўтара

На крыжы павіс вянок, зроблены школьнай моладдзю з Дашоў.



Дашоўскія дзеці ідуць з кветкамі на магілу невядомага салдата.

## ТЫНКОЎШЧЫНА

Гэта ні вёска, ні пасёлак, а ўрочышча, сенажаць вёскі Макаўка ў Нараўскай гміне, якое ляжыць недалёка ад Тынявіч Вялікіх. Яшчэ 20 год таму назад гэтая сенажаць была надта балоцістая, дрыгвяністая. Высахшае сена выносілі сяляне насілкамі на грудок, што ў некалькіх сотнях метраў. Цяжкая была гэта праца. Па пояс купаліся ў балоце.

Зараз сенажаць Тынкоўшчына асушана, расце на ёй культурная трава; збіраюць у год тут два-тры добрыя пакосы. Можна без боязі ехаць і канём, і трактарам. Такімі сталі сенажаці і ў вёсцы Тыневічы Вялікія і ў іншых вёсках. Але не толькі ў гэтым справа. Справа яшчэ і ў тым, што назва ўрочышча „Тынкоўшчына“ гаворыць нам, што гэтая сенажаць належала калісьці да Тына, першага заснавальніка-асадніка вёскі Тыневічы Вялікія. Тут маем прыклад, калі назва ўрочышча выясняе назву вёскі.

**М. Л.**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

### ГАДЗІНА 6.00 ЦІ 6.30?

Падаем адказ аддзела ВСС „Сполэм“ у Гайнаўцы. А ці ж не варта ўзяць пад увагу пажаданняў людзей і краму, дзе прадаецца малако і булкі (асноўная ежа на снеданне) адкрываць а 6 гадзіне, а не а 6.30?! Шостая гадзіна раніцы ў рабочай Гайнаўцы — гэта не рана, і нічога не станецца прадаўшчыцы, калі паўгадзіны не даспіць, а рабочым будзе ў карысць.

W dniu 9 maja 1976 r w n-nrze Nr 19(1054) Waszego pisma została zamieszczona notatka pt. „Dziwny sklep”, dotycząca naszego sklepu nr 36 przy ul. Wyzwolenia 22, w którym stwierdzono nieprzestrzeganie godzin przez zatrudnioną w nim agentkę.

Otóż wyjaśniamy, że godz. otwarcia w/w sklepu są ustalone w porozumieniu z Urzędem Miejskim jak niżej: w dni powszednie od godz. 6.30 do 17-ej z przerwą od godz. 12 do 14.30 a w soboty od godz. 6.30 do 12.30 bez przerwy i są one przestrzegane przez sprzedawczynię, jak również informuje o tym wywieszka w sklepie. Dla lepszej orientacji klientów została przytwierdzona na drzwiach wywieszka na zewnątrz sklepu, aby uniknąć nieporozumień na przyszłość.

**Włodzimierz Filoniuk**
**Z-ca Dyrektora Oddziału**

### НЕ ПАВЕРЫМ

Бо ніжэй прыведзены адказ аддзела ВСС у Саколцы на нашу публікацыю з нумара 17 „Нівы“ нікога не пераконвае, што малочны бар у так вялікім горадзе, як Саколка, непатрэбны і што даволі ўвесці малако ў рэстаране, каб людзі яго зараз пілі (наогул у рэстаране людзі п'юць што іншае, а той, хто хоча малака, у рэстаран не пойдзе). Трэба толькі цешыцца, што ВСС „Сполэм“ пастараецца і ў хуткім часе адкрые ў Саколцы асобны сапраўдны малочны бар з шырокім асартыментам малочных страў.

W odpowiedzi na notatkę prasową p.t. „Przepadł bar mleczny”, zamieszczoną w Waszej gazecie, uprzejmie wyjaśniamy:

1. Spełniając postulaty społeczeństwa miasta Sokółki, nasz Oddział w miesiącu lipcu 1973 r. otworzył „Pijalnię mleka” w pomieszczeniu byłego „Baru popularnego” po dokonaniu koniecznych remontów i adaptacji.
2. Pomimo tego, że zakres działalności pijalni mleka jest o wiele mniejszy od „Baru mlecznego”, to jednak na skutek ciągle panującej wilgoci pomieszczenia pijalni (ściany, sufit) uległy tak szybkiemu zapleśnieniu i zagrzybieniu, że nawet cokilkutygodniowe malowanie pomieszczeń nie skutkowało.
3. W związku z powyższym władze San.-Epidu zaleciły doprowadzenie pomieszczeń pijalni do należytego stanu sanitarnego pod rygorem zamknięcia działalności pijalni.
4. Ponieważ lokal po byłym barze miał zbyt małą powierzchnię i nie można było wydzielić odpowiednich pomieszczeń na kuchnię i magazyn, co mogłoby polepszyć warunki sanitarne, Dyrekcja Oddziału musiała zrezygnować z działalności pijalni mleka, z tym, że tak w restauracji „Relaks”, jak też w Bufecie Dworcowym wpowadzono gorące napoje i zupy mleczne.

Wymienione zakłady są czynne codziennie od godz. 7.00.

5. Pomieszczenie (lokal), w którym mieściła się pijalnia mleka, został w tej sytuacji zaadoptowany na sklep „Peweksu”, która to placówka handlowa także jest bardzo potrzebna mieszkańcom Sokółki i okolic.
6. Jednocześnie nadmieniamy, że ilość konsumentów korzystających z pijalni mleka była bardzo mała, ale pomimo tego Dyrekcja Oddziału będzie czyniła starania o budowę lub przydział z Urzędu Miasta odpowiedniego lokalu na Bar Mleczny.

**Dyrektor**
**mgr Edward Nadzieja**

„Niwa” — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch”. Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu”, urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36811/36671.

Імпартгумар

## Тры пальцы пад этыкеткай

— Рулявы, — сказаў капітан, — звар'яцееш ад гэтай праклятай гайданкі, налі мне яшчэ чарку і паглядзі, якім курсам мы плывем.

Рулявы наліў кан'як, падняў бутэльку да святла і сказаў:

— Тры пальцы пад этыкеткай — значыць, мінулі мыс Горн.

— Неабавязкова вызначаць курс па бутэльцы, — закіпеў капітан. — Гэта ганьба для сапраўднага навігатара. Навошта ж тады компас?!

Рулявы ўстаў, зрабіў некалькі крокаў і няўпэўнена паведаміў:

— Курс захад-поўдзень-усход.

— Што? — перапытаў капітан, мяркуючы, што не дачуў.

— Захад-поўдзень-усход, — паўтарыў рулявы, — а магчыма, і поўнач-поўдзень-захад.

— Здаецца, у цябе не ўсе дома! — крыкнуў капітан. — Захад-поўдзень-усход... Поўнач-поўдзень-захад... Глупства нейкае!

— Я не вінаваты, — бараніўся рулявы. — Так паказвае наш новы компас, які круціцца з пякельнай хуткасцю, як ваўчок, і ўвесь час управа!

Капітан здзівіўся. Ён устаў, агледзеў прыладу, якая сапраўды круцілася.

— Рулявы, — прамармытаў ён, — табе не здаецца, што компас сапсаваны?

— А мо карабель патанае? У інструкцыі сказана, што ў гэтым выпадку прылады болей не функцыяніруюць! — выказаў меркаванне рулявы.

Капітан збялеў.

— Ясна, — прахрыпеў ён, — мы патанаем! Закруці неадкладна вентылі!

Рулявы рушыў да найбліжэйшай ручкі. Яго апырскала пенная вадкасць.

— Эй,ты! — капітан схапіў яго за рукаў. — Перш за ўсё пасажыры! Адвядзі іх на палубу!

Затым ён паглядзеў на компас, які працягваў круціцца.

— Ты, старое смецце, ты ва ўсім вінаваты! — крыкнуў ён і пачаў трэсці прыладу. — А вы што тут робіце? — зароў ён на пасажыра. — Неадкладна ў шлюпку!

— Дазвольце, калі ласка, — пачаў той, ды перш чым ён змог дакончыць, капітан схапіў яго за каўнер і моцным рыўком выкінуў вонкі. Ён паспрабаваў было схапіць другога, ды ў гэты момант адчуў, як нехта моцна страсянуў яго самога.

— Ну, хопіць! — крыкнуў гаспадар кафэ. — Усяму ёсць канец! Калі вы адкруцілі ў мяне піўны кран, я не сказаў нічога. Калі вы трэслі праігрывацель, я таксама не сказаў ні слова. Але цяпер вы пачалі выкідваць маіх гасцей на вуліцу! Хопіць! Любому цярпенню ёсць канец! Плаціце і вымятайцеся адсюль разам са сваімі сябрукамі!

**Бертальд Блюм** (Бельгія)

— *Даражэнькая, едучы з рыбалкі я купіў добрую лупу.*

# НІЎКА

*Такое здараецца з кожным мужчынам.*

ГУМАР З

### ПЕРАХВАЛІЛА

Напякла баба хлеба, ды ён у яе выйшаў нешта не вельмі ўдалым. Вось яна і надумала: пайду на базар ды прадам яго. Не прападаць жа муцы...

Толькі стала ў рад на базары — аж зірк — чалавек ідзе ды яшчэ і хлеба пытае. Бабуся і пачала свой тавар хваліць:

— Купі, чалавеча, мой хлеб. Вось глядзі які: як пух, як дух, як мілае шчасце!

Чалавек узяў у рукі буханак — а ён як гліна! — ды й бухнуў ім бабу па спіне.

— Ой, — залементавала не сваім голасам бабуся, — ой жа ж і ўдарыў, катаў сын, як каменем!

Між намі

**Тое, што мы бачым, залежыць ад таго, куды мы глядзім.**

### СОН

*Я спаў і навальніцу сніў:*
*Маланка сцёбала бліскучай пугай*
*І гром грымеў,*
*І дождж, як з бочкі, ліў,*
*І вецер дрэвы гнуў у дугі.*
*І раптам жах мяне праняў.*
*Я ўстрапянуўся, вырачыўшы вочы.*
*Гляджу: аж гэта жоначка мая,*
*Каб я ўставаў, вядром грукоча.*

**Мікола Стральчэня**

— *Які я быў дурны, што выратаваў тваёго сабаку!*

### І ТАК БЯДА, І ТАК...

— Тата, чаму рыбы заўсёды маўчаць?

— Маўчаць таму, што вада ім перашкаджае размаўляць.

— А калі няма вады?

— Тады ім ужо не да размовы.

### ЛЯКАРСТВЫ

Лекар пытае ў пацыента:

— Як памагло лякарства?

— Цудоўна! Сына яно вылечыла ад кашлю, у мяне дзякуючы яму перастала балець спіна, а рэштай жонка вымыла вокны.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Н. Нікіцюк са Ступнік, Г. Лук'янюк і І. Касцючук з Кожына, Я. Аніщук, Я. Апалінскага, Ю. Якімюка і Л. Андраюка з Зубава, З. Іванюк і У. Парфенюка з Трашчотак, а таксама дзяўчат з Парцава змяшчаем песню*

## BYWAJĄ TAKIE DNI

**słowa: Ireneusz Iredyński**
**muzyka: Jerzy Derfel**
**śpiewa Alicja Majewska**

Bywają takie dni
że się na jawie śni
Chmury na niebie są z muzyki
Miasto ze światła zbudowane
Deszcz to nie krople lecz płomyki
A czyjeś oczy — zakochane

Cóż to za dni, cóż to za dni
Gdy się na jawie, na jawie śni?

Bywają takie dni
że się na jawie śni
Sufit jest niebem rozgwieżdżonym
ściany zaś śpiewem są kojącym
I czas jest koniem roztańczonym
A czyjeś usta są gorące.

Cóż to za dni, cóż to za dni
Gdy się na jawie, na jawie śni?

Bywają takie dni
że się na jawie śni
Cisza to okrzyk jest radości
Ciała zaś z iskier są utkane
I wiatr jest pieśnią o nagości
A czyjeś włosy — zaplątane

Cóż to za dni, cóż to za dni
Gdy się na jawie, na jawie śni?

Bywają takie dni
że się na jawie śni
Zieleń za oknem jest z uśmiechów
Miodem sycone wokół wszystko
Świat się zatrzymał w swoim biegu
Bo ktoś jest bardzo — bardzo blisko

Cóż to za dni, cóż to za dni
Gdy się na jawie, na jawie śni?

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

На званым вечары два незнаёмыя паны прадстаўляюцца адзін другому:

— Сёрансэн, гандляр. вугаль і кокс.

— Ольсэн, дырэктар турмы, вада і хлеб...

*

Пажылая сін'ёра звяртаецца да сваёй знаёмай:

— А вось перад вамі фота крэйсера „Вікторыя", якім я дваццаць год камандавала праз мужа...

*

Не ў сілах зносіць прыдзіркі сваёй гаспадыні і яе пагарду, служанка аднойчы выказала, што ў яе набалела на душы:

— Я не разумею, чаму вы так да мяне адносіцеся. Я ж ведаю, што ў маладосці вы таксама працавалі на такой жа рабоце, як я цяпер.

— Так, але ў добрых дамах! — горда адказала пані.

### МУЖЧЫНЫ

Жонка паведамляе мужу:

— Я чытала вельмі цікавы артыкул аб мужчынах. Аўтар цвердзіць, што пасля жаніцьбы яны становяцца куды разумнейшымі.

Муж: — Так, ды тады гэта ўжо занадта позна.

**...Усё жыццё яго чакалі вялікія справы. Не дачакаўшыся, адыйшлі да іншага.**

# Курёзы

### РАЎНАПРАЎЕ ПА-АМЕРЫКАНСКУ

Мінулы 1975 год — міжнародны год жанчыны, — паводле сцвярджэння амерыканцаў, стаў годам сацыяльнага раўнапраўя жанчын ЗША. Упершыню за 93 гады існавання аднаго з буйнейшых оперных тэатраў краіны да дырыжорскага пульта была дапушчана жанчына. Прадстаўніцы слабога полу сталі адваёўваць у мужчын і месца ў цяжкай атлетыцы. Не так даўно ў штаце Арыгона на рынгу выступілі дзве баксёркі — Надзея Гамбуа, 35 год, маці двaіх дзяцей, разведзеная з мужам, і Караліна Свендзэн, 34 гады, двойчы разведзеная. Можа, таму, што Караліна Свендзэн маладзейшая на год, ці таму, што дзякуючы двум шлюбам у дамашніх абставінах лепш засвоіла вопыт кулачных боек, яна лёгка перамагла ў гэтай стычцы і атрымала 400 долараў.

Паводле прэсы, прыкладу гэтых баксёрак рыхтуюцца паследаваць яшчэ каля тузіна жанчын, якія збіраюцца зрабіць свой бізнес на спартыўнай арэне. Жанчыны пачалі змагацца ў падыманні цяжкасцей, вольнай і класічнай барацьбе, займацца гульнёй у хакей і іншымі нялёгкімі відамі спартыўных спаборніцтваў. Але ўсё гэта асобныя факты. Куды больш масавы характар набывае разбойніцкі рух сярод жанчын ЗША. І гэта таксама лічыцца своеасаблівым метадам зацвярджэння раўнапраўя амерыканак. У мінулым годзе ў краіне значна ўзрасла колькасць жаночых банд. Яны нападаюць вечарамі на пражохых на вуліцах, рабуюць кватэры, выкрадаюць аўтамабілі і нават робяць налёты на банкі. Прычым робяць гэта артыстычна-таленавіта, карыстаючыся рэпутацыяй слабага полу. Падыходзіць жанчына да зачыненых дзвярэй банка і, не выклікаючы ніякіх падазрэнняў у клерка-вартаўніка, раптам падае ў непрытомнасці. Клерк адчыняе дзверы, кідаецца на дапамогу, а тым часам змоўніцы „хворай" стрымгалоў урываюцца ў памяшканне-і вось да скроні вартаўніка прыстаўлены кольт.

Кажуць, што і паліцыя пачала карыстацца паслугамі жанчын у паляванні на рабаўнікоў банкаў у якасці назіральніц за падазронымі асобамі, бо на жанчыну ж не стане азірацца нейкі бандыт.